ВЫДАННЕ АСВЕТНІКАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

# Настаўніцкая газета

Выходзіць з 20 снежня 1945 года | №63 (4421) СЕРАДА, 3 жніўня 1994 года | Кошт па падпісцы — 80 руб., у розніцу — 300 руб.

## НГ-іНФАРМ

## БЕЛАРУСЫ ЗАМЕЖЖА НА БАЦЬКАЎШЧЫНЕ

### НАСТАЎНІКІ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ З ПОЛЬШЧЫ, РАСІІ, ЛІТВЫ І ЭСТОНІІ ПАВЫШАЮЦЬ КВАЛІФІКАЦЫЮ Ў МІНСКУ

Шматаблічнае і супярэчлівае 20-е стагоддзе пакідае ў гісторыі беларускага народа выразны адбітак бясконцага пошуку ўласнага самасцвярджэння і рэалізацыі надзеі — спадзявання стаць роўным сярод роўных. Шлях у гэтым накірунку заўсёды быў пакручастым і цярністым. Відаць, глыбока сімвалічна тое, што пачатак і заканчэнне стагоддзя адзначаны глыбокімі інтэнцыямі беларускага народа да ўласнай годнасці, незалежнасці і дзяржаўнай суверэннасці. Народ-пакутнік, народ-пясняр усё настойлівей і гучней падае свой голас чалавецтву, усё актыўней пачынае ўплываць на еўрапейскія і агульначалавечыя працэсы развіцця.

Беларусы, рассыпаныя дваццатым стагоддзем па ўсім свеце і, здавалася б, назаўсёды страціўшыя не толькі сувязь з Бацькаўшчынай, але і пачуццё лучнасці са сваім народам, паказалі і яшчэ раз даказалі ўсяму сусвету: жыве беларускі народ, жыве яго родная Беларусь. Яскравым сведчаннем таго стаў мінулагодні Першы з'езд беларусаў свету, арганізаваны і праведзены таварыствам "Бацькаўшчына". З'езд надаў новы імпульс працэсу кансалідацыі беларускага этнасу, значна актывізаваў працэс фарміравання нацыянальнай самасвядомасці, абудзіў узаемную зацікаўленасць беларусаў, якія жывуць на Бацькаўшчыне і ў замежжы. Сёння кантакты паміж імі носяць усебаковы характар, ахопліваючы розныя сферы жыццядзейнасці грамадства.

У шырокім спектры дзелавых адносін пэўнае месца займаюць навуковыя і культурныя кантакты, актыўны ўзаемаабмен вопытам нашай педагагічнай грамадскасці. З мэтай рэалізацыі перспектыўнай праграмы ўзаемасупрацоўніцтва з 20 чэрвеня па 2 ліпеня ў інстытуце павышэння кваліфікацыі і перападрыхтоўкі кіруючых кадраў і спецыялістаў адукацыі праводзіліся мэтавыя курсы для настаўнікаў беларускай мовы, якія працуюць у навучальных установах Польшчы, Расіі, Літвы і Эстоніі.

Падчас распрацоўкі праграмы курсаў кафедра беларусазнаўства сумесна з Цэнтрам "Бацькаўшчына", дэканатам кіруючых работнікаў і спецыялістаў сярэдняй школы кіраваліся наступным прынцыпам: пазнаёміць нашых замежных суайчыннікаў-настаўнікаў з апошнімі навуковымі дасягненнямі ў розных сферах беларускага народазнаўства (гісторыі, культуры, мастацтвазнаўства, мовазнаўства, літаратуры, псіхалогіі), з шэрагам інавацыйных педагагічных тэхналогій, якія актыўна выкарыстоўваюцца ў дзейнасці лепшых школьных калектываў, устаноў новага тыпу. Акрамя таго, гасцям была прапанавана даволі насычаная культурная праграма.

У аснове канцэпцыі павышэння кваліфікацыі, якой прытрымліваецца ІПК і на якой грунтуюцца практычна ўсе праграмы курсавых мерапрыемстваў, ляжаць асноўныя прынцыпы—комплекснасці, сістэмнасці і дыферынцаванасці. Маючы справу са слухачамі розных спецыяльнасцяў, мы заўсёды аддаем перавагу іх інтарэсам, але пры гэтым імкнемся пазнаёміць іх з напрацоўкамі навукоўцаў шэрагу блізкароднасных накірункаў, тым самым дапамагаючы максімальна ўзбагаціць веды, якія дазволяць выйсці за межы вузкай спецыялізацыі і лёгка ўпісацца ў кантэкст сучаснага жыцця і дзейнасці.

Такі падыход быў захаваны і пры распрацоўцы праграмы курсаў для замежных настаўнікаў беларускай мовы. Менавіта таму перад гасцямі выступаў адзін з вядучых гісторыкаў Беларусі прафесар А.П.Грыцкевіч, які па-новаму расказаў аб асноўных этапах гісторыі фарміравання і развіцця беларускага этнасу. Загадчык кафедры І.І.Крук абмяркоўваў праблемы актуалізацыі традыцыйнай культуры беларусаў на сучасным этапе і магчымасцях скарыстання яе шматвяковага вопыту ў сучасным адукацыйным працэсе. Слухачы былі азнаёмлены з прынцыпамі пабудовы народнага календара, з асноўнымі каардынатамі духоўнага космасу беларусаў, з лепшымі творамі дзіцячага фальклору, з вопытам народнай педагогікі. Дацэнты кафедры І.М.Слесарава і П.І.Лявонава прааналізавалі асноўныя тэндэнцыі развіцця сучаснай беларускай літаратуры ў кантэксце агульнаеўрапейскага літаратурнага працэсу. Вялікую ўвагу яны ўдзялілі аналізу твораў пісьменнікаў беларускага замежжа, вернутай літаратуры 20-х — 30-х гадоў, прапанавалі сваё, сучаснае прачытанне паасобных класічных твораў.

Безумоўна, значнае месца ў праграме займалі лекцыі і практычныя заняткі, звязаныя з мноствам праблем гісторыі і сучаснага стану роднай мовы. Дацэнт педуніверсітэта П.А.Міхайлаў падсумаваў розныя падыходы навукоўцаў і дзеячаў культуры да неабходнасці і шляхоў рэфармавання правапісу. Дацэнт Н.П.Дзёміна абмяркоўвала шляхі фарміравання культуры мовы і тыя інавацыйныя тэхналогіі, якія дапамагаюць вырашыць гэтую складаную задачу.

Але асабліва змястоўнымі і карыснымі былі сустрэчы слухачоў са сваёй каляжанкай — настаўніцай беларускай мовы гімназіі №198 Н.А.Сторажавай. Гэта настаўнік-наватар, настаўнік-даследчык. Яна падрыхтавала і выдала шэраг метадычных дапаможнікаў і падручнікаў. Менавіта таму кантакты паміж ёй і настаўнікамі замежжа працягваліся не толькі ў інстытуцкай аўдыторыі, але і ў яе дома.

Улічваючы просьбы нашых шаноўных гасцей, мы пазнаёмілі іх з экспазіцыяй лепшых музеяў горада (Я.Купалы, Я.Коласа, М.Багдановіча, мастацкага музея, музея старажытнабеларускай культуры ІМЭФ АНБ і інш.), наведалі нашы вядучыя нацыянальныя тэатры, арганізавалі цікавую і змястоўную экскурсію па нашых гістарычных мясцінах. З асаблівай удзячнасцю настаўнікі адгукнуліся на невялікі прэзент — некалькі кніг па гісторыі Беларусі, яе культуры, вуснай народнай творчасці.

"Круглы стол" напрыканцы курсаў засведчыў неабходнасць штогадовага правядзення такіх сустрэч.

На развітанне госці пажадалі нам хутчэй вырашыць агульнанацыянальныя праблемы, назапашваць вопыт у перабудове сістэмы нацыянальнай адукацыі, дабрабыту і плёну ў рабоце.

**Янка КРУК,**
загадчык кафедры беларусазнаўства, кандыдат філалагічных навук, дацэнт.

## Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь А.Р.ЛУКАШЭНКУ

# НАКАЗ

### РЭСПУБЛІКАНСКАЙ ЭКАЛАГІЧНАЙ КАНФЕРЭНЦЫІ "ПАЛІТЫКА І ВЫЖЫВАННЕ ПАД ЧАС ЭКАЛАГІЧНАГА БЕДСТВА"

**Паважаны спадар Прэзідэнт!**

**Вы абраны народам, які ладкуе жыццё сваё ў Беларусі, дзе разыгралася экалагічнае бедства. Гэты факт, на думку ўдзельнікаў канферэнцыі, вымагае ад Вас пэўнага ўліку абставін, карэкцірокі праграмы ўсёй Вашай прэзідэнцкай дзейнасці.**

**Канферэнцыя праведзена Сацыяльна-экалагічным саюзам "Чарнобыль" з удзелам розных іншых грамадскіх арганізацый, рухаў і партый. На ёй прагучала больш за 20 дакладаў, у якіх выказана вялікая занепакоенасць безуважнасцю дзяржаўных устаноў, урада, уплывовых палітыкаў да чарнобыльскіх праблем, праблем экалогіі і здароўя насельніцтва Беларусі ў цэлым.**

**Канферэнцыя абмеркавала шэраг наспелых пытанняў, праблем, многія з якіх носяць прыярытэтны характар; выпрацавала рэзалюцыю.**

**Маем гонар прапанаваць яе Вам ад імя канферэнцыі ў якасці дакумента, што заслугоўвае самай высокай увагі, разгляду і падтрымкі прэзідэнцкімі службамі.**

**Канферэнцыя спадзяецца на Вашу асабістую прыхільнасць да экалагічных арганізацый і рухаў, якія дзейнічаюць у рэспубліцы, разлічвае на ўзаемаразуменне і супрацоўніцтва з эколагамі ўсіх накірункаў і плыняў, прынамсі, заклікаем Вас да гэтага.**

**У імя здароўя зямлі і здароўя народа павярніцеся тварам да небяспекі, якая тоіцца ў дэструктыўных экалагічных працэсах, што адбываюцца ў грамадстве і прыродзе наўкола.**

**Прыярытэт экалогіі павінен захоўвацца пры вырашэнні народнагаспадарчых задач.**

**Па даручэнні канферэнцыі:**

**Анатоль ВОЛКАЎ, народны дэпутат Рэспублікі Беларусь**

**Іван НІКІТЧАНКА, член-карэспандэнт АНБ, намеснік старшыні Беларускай сялянскай партыі**

**Тамара БЕЛАВОКАЯ, урач, старшыня Беларускага камітэта "Дзеці Чарнобыля"**

**Уладзімір ПАЎЛАЎ, сакратар Рады Саюза пісьменнікаў Беларусі**

**Васіль ЯКАВЕНКА, пісьменнік, прэзідэнт БелСаЭС "Чарнобыль", галоўны рэдактар газеты "Набат".**

(Заканчэнне на 2-й стар.).

Хто шчэ не так даўно думаў, што Палессе мецьме гэтакае чужацкае сугучча з дзікім, страшным, ніяк не прыдатным да яго словам "ЗОНА"?

Ні гэты стары паляшук, што пражыў тут сваё нішто як восемдзесят, ні малы няўцямны шчанюк, які ўбачыў свет Божы, лічы, учора ніяк не могуць уцяміць, што жыць тут — адно сабе горай, а не жыць — яшчэ горш, бо хіба знойдзеш на чужыне месцейка роднае, любае. І выходзіць так, што няма ім куды ехаць — здратаванаму маршчынамі дзеду і дурненькаму шчанюку.

І дзе ўзяць тыя словы, каб уразумелі людзі і птушкі, мурашы і сабакі, рыбы і гады — няма вам тут больш ні шчасця, ні долі.

Няма такіх слоў.



## ЭКСКЛЮЗІЎНАЕ ІНТЭРВ'Ю ДЛЯ "НГ"

## Прафесар Алексінія БОЛДУІН: "Мы хочам палепшыць адукацыю для ўсіх дзяцей"

**У Мінску, у Дзяржаўным педагагічным універсітэце, на прайшоўшай Міжнароднай канферэнцыі "Праблемы развіцця навукі і адукацыі ў сучасных умовах і ўзмацненне міжнародных сувязяў вучоных" прафесар Алексінія Болдуін (ЗША) зрабіла даклад "Ад філасофіі да стратэгіі навучання", які быў выслуханы з вялікай увагай. Пад час пасяджэння канферэнцыі я перадала ёй некалькі пытанняў, звязаных з праблемамі, закранутымі ў дакладзе. Праз месяц з універсітэта ў штаце Канэктыкут прыйшла бандэроль з адказамі сп. А.Болдуін. Так з'явілася гэтае інтэрв'ю "па перапісцы".**

— Некалькі месяцаў назад, размаўляючы з міс Элісан Прайс, каардынатарам адукацыйных праграм Фонду Сораса — Беларусь, я даведаўся аб цікавай асаблівасці амерыканскай сістэмы адукацыі: яна не з'яўляецца сістэмай! Як сказала мая субяседніца, "у нас не знойдзеш дзвюх падобных школ". (Гэтыя словы я паставіў у загаловак нашага інтэрв'ю ў "Настаўніцуай газеце"). З другога боку, Ваш намер выпрацаваць стратэгію навучання, г.зн. сістэмную ўласцівасць, знаходзіцца ў пэўнай супярэчнасці з "несістэмным характарам амерыканскай адукацыі. Як Вы гэта растлумачыце?

— У нас ёсць нацыянальныя законы, якія прадпісваюць, што павінны рабіць усе школы ў сэнсе бяспекі вучэння, а таксама ў адносінах да дзяцей, якія маюць нейкія спецыяльныя патрэбы. Яны датычаць таксама накіраванасці школьнай дзейнасці і ўзроставых абмежаванняў школьнага навучання. У рамках гэтых законаў, абапіраючыся на дэмакратычныя прынцыпы нашай краіны, школы маюць магчымасць планаваць заняткі, адшукваць эфектыўныя шляхі атрымання ведаў — каб падрыхтаваць вучняў да здачы дзяржаўных экзаменаў, якія абавязковыя. Вось і ўсе абмежаванні. Ва ўсім астатнім школы колькі хочуць могуць адрозніваца адна ад адной.

— Якія ёсць прычыны для трансфармацыі амерыканскай адукацыі?

Мы заўседы шукалі магчымасці палепшыць адукацыю для ўсіх дзяцей. Склад насельніцтва мяняецца з міграцыяй з азіяцкіх, іспанамоўных і іншых краін. Ацэнкі на экзаменах паказваюць, што настаўнікі не маюць магчымасці задаволіць запатрабаванні ўсіх вучняў, з розных сацыяльных слаёў. Адпаведную трансфармацыю мы называем РЭСТРУКТУРАВАННЕМ. Гэта значыць, што мяняецца падрыхтоўка настаўнікаў, якія працуюць з дзецьмі, арганізацыя школьнай справы, вядуцца даследаванні па распрацоўцы лепшых метадаў адукацыі для педагогаў. Мы спадзяемся, што праведзеныя змены дазволяць ЗША і далей быць "канкурэнтаздольнымі" ў свеце па ўзроўні адукацыі.

— У пачатку гэтага года Фонд Сораса аб'явіў конкурс заявак па-

(Заканчэнне на 2-й стар.).

## НГ-іНФАРМ

## ВІЦЕБСКІ МЕРЫДЫЯН

### ЮБІЛЕЙ ШКОЛЬНАГА МУЗЕЯ

Пятнаццацігоддзе свайго музея адзначыла нядаўна трыццаць другая сярэдняя школа Віцебска. Гэта музей трыццаць дзевятай арміі, якая вызваляла горад. На юбілей былі запрошаны мастакі, якія ў свой час афармлялі музей, шэфы з завода "Мегом" і са штаба Віцебскай дывізіі, старшыня абласнога аб'яднання "Пошук" Л.Н.Бруева.

Музей не ўступае лепшым сталічным, тут можна ўбачыць выдатныя дыярамы, рэдкія дакументы і фатаграфіі. А экскурсаводамі тут школьніцы Вольга Шкірэева, Іна Гурэцкая, Нэля Федасеева. Шмат сіл аддала стварэнню музея дырэктар школы Валянціна Ільінічна Захарава.

### ВЫКЛАДЧЫКІ ТАКСАМА АДПАЧЫВАЮЦЬ

Па ініцыятыве прафкама Віцебскага медыцынскага інстытута прайшоў вечар адпачынку для сем'яў выкладчыкаў, лабарантаў, іншых супрацоўнікаў. Папярэднічаў яму агляд-конкурс дзіцячай творчасці. Тут багата было малюнкаў, аплікацый, цацак, карцін, вышывак. Дзіцячы калектыў з Дома культуры чыгуначнікаў паставіў таксама канцэрт для ўдзельнікаў вечара. А затым за лепшыя работы дзеці атрымалі прызы. Былі і заахвочвальныя прызы — шакаладкі, якія атрымаў кожны.

### КОНКУРС-АГЛЯД

Конкурс-агляд школьных музеяў прайшоў у Бешанковічах. Ён паспрыяў актывізацыі ваенна-патрыятычнага выхавання ў раёне, умацаваў сувязі школ з мясцовымі ветэранскімі арганізацыямі, а таксама выявіў пераможцаў.

Першае месца заняла Астровенская сярэдняя школа, якой і ўручаны дыплом першай ступені, а таксама грашовая прэмія. Кіруе тут школьным музеем настаўнік гісторыі Валянцін Уладзіміравіч Ганчароў.

Адзначана таксама работа калектываў Ульскай і Бачэйкаўскай сярэдніх школ.

Падрыхтаваў
**Уладзімір МІХНО.**

### ЛЕТНІ РАСКЛАД

## І КІВІ, І БЕГОНІІ

Лета — гарачая пара ў тых, хто працуе на зямлі. Вельмі многа неабходна прыкласці намаганняў, каб атрымаць добры ўраджай.

Я прыйшла ў Рэспубліканскі экалагічны цэнтр навучэнцаў, думаючы, што зараз там нялёгка: працы пабольшала, а дзеці на канікулах. Хто ў летніку, хто ў бабулінай вёсцы. Але была прыемна здзіўлена: жыццё тут, як заўсёды, шумнае, вясёлае. Жывёлы ў "жывым кутку" і рыбкі ў акварыумах сытыя, дагледжаныя, а на градах і клумбах няма пустазелля — усё, як у добрай гаспадыні.

Я сустрэлася з дзвюма дзяўчынкамі, што прыйшлі сюды. Іна Урбан і Лена Шырынская — абедзве ўжо дзевяцікласніцы, прыходзяць у цэнтр чацвёрты год.

**— Чаму для пазашкольных заняткаў вы выбралі менавіта Рэспубліканскі экалагічны цэнтр?**

— Мы доўга думалі, куды пайсці, выбіралі. І сюды прыйшлі спачатку дзеля цікаўнасці. А цяпер толькі тут праводзім вольны час.

— Раней вас мамы вучылі, як вырошчваць расліны, цяпер, мабыць, самі вучыце мам?

— На прафесійным узроўні, — смяюцца дзяўчаты. — У нас вельмі добры настаўнік — Ларыса Сакалоўская. Яна дае нам не толькі тэарэтычныя веды і практычныя навыкі, але і нешта такое, калі без зямельных клопатаў ужо неяк сумна. Можа гэта завецца любоўю да зямлі?

**— Як я зразумела, у кожнай з вас тут ёсць свой занятак.**

Лена: — Я вырошчваю бягоніі.

Іна: — А ў мяне ёсць свой пладовы садзік, дзе растуць лімоны, хурма, ківі, банан, авакада, сунічнае, фігавае, кафейнае дрэвы і іншыя трапічныя расліны. Спадзёмся, што хутка паспытаем экзатычнай садавіны.

**— Як вы думаеце пасля школы распарадзіцца сваім лёсам? Звяжаце жыццё з біялогіяй ці з агранаміяй?**

— Я пакуль не ведаю, — гаворыць Іна. — Лена ў нас цудоўны матэматык. Хутчэй за ўсё яна будзе займацца дакладнымі навукамі. Кім бы мы ні былі, веды, набытыя тут, у жыцці вельмі спатрэбяцца. Я і дзяцей сваіх сюды прывяду.

Дарэчы, Іна прыйшла сюды з маленькім брацікам. І пакуль мы гутарылі, ён з сур'ёзным выглядам разглядваў нейкую кветачку, задумліва варушыў вуснамі, відаць, падлічваючы колькасць тычынак і песцікаў.

Не толькі вясковыя, а і гарадскія дзеці прыходзяць працаваць на зямлі. Таму ёсць упэўненасць: не будзем без хлеба.

**Галіна СІДАРОВІЧ.**

## ГРОДЗЕНСКІ КУР'ЕР

### НОВЫ ФАКУЛЬТЭТ

З першага верасня ў Гродзенскім дзяржуніверсітэце пачне дзейнічаць новы факультэт — гуманітарны. Тут будуць рыхтаваць псіхолагаў і выкладчыкаў замежных моваў для малодшых класаў.

### МОЖНА І Ў ПОЛЬШЧЫ

На працягу першых дзвюх змен у аздараўленчых летніках вобласці адпачыла больш як 20 тысяч школьнікаў. Усе жадаючыя дзеці за ўмераную плату могуць адпачыць у суседняй Польшчы.

### У КАГО БОЛЬШ ШАНСАЎ

Пяты выпуск Малaберастaвіцкага вучылішча склалі гандляры, повары, кандытары і прадстаўнікі іншых спецыяльнасцяў. Але значна больш шансаў на працаўладкаванне ў выпускнікоў групы пчаляроў. Экзамен у іх адбудзецца ў жніўні.

### СЛОНІМСКАЯ ФІЛІЯ

У Слоніме адкрываецца філія Беларускага цэнтра перападрыхтоўкі і працаўладкавання ваенаслужачых запасу. Тут будуць рыхтаваць спецыялістаў па маркетынгу, менеджменту і бухгалтарскаму ўліку.

### ЭТНАГРАФІЧНЫ МУЗЕЙ

У Шчучыне з дапамогай школьнікаў у хуткім часе адчыніцца этнаграфічны музей. Сярод яго экспанатаў — прадметы хатняга ўжытку, вырабы вучняў і народных майстроў.

### УПЕРШЫНЮ Ў ГІСТОРЫІ

У Гродзенскім дзяржуніверсітэце ўпершыню ў гісторыі абаранілі свае дыпломы выпускнікі новай спецыялізацыі — "Польская філалогія і культура".

### СТУДЭНЦКІ АТРАД

Будаўнічы студэнцкі атрад Дзяржуніверсітэта накіраваўся ў адзін з крымскіх саўгасаў на ўборку вінаграду.

### З ДЗЯТЛАВА — У ЛЮКСЕМБУРГ

50 хлопчыкаў і дзяўчынак з Дзятлаўскай школы-інтэрната па лініі Хрысціянскай місіі накіраваліся да сваіх сяброў у Люксембург. Яшчэ 30 падлеткаў з раёна будуць адпачываць у Польшчы.

### ГАСЦІННАЕ "АРЛЯНЯ"

Аздараўленчы дзіцячы летнік "Арляня", што ў Бераставіцкім раёне, прыняў вялікую групу школьнікаў з Гомельшчыны.

**Юры АЛЯКСЕЕЎ.**

НГ-іНФАРМ

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

# РЭЗАЛЮЦЫЯ

## рэспубліканскай канферэнцыі "Палітыка і выжыванне пад час экалагічнага бедства"

(Публікуецца ў скарачэнні)

Канферэнцыя сабралася ў дні найвялікшых выпрабаванняў для беларускага народа, калі крызіс у розных галінах эканомікі, сацыяльнага жыцця і палітыкі адсоўвае на задні план вырашэнне экалагічных праблем, што набылі сваю асаблівую вастрыню пасля чарнобыльскай катастрофы.

У 1990 годзе Вярхоўны Савет аб'явіў усю Беларусь зонай экалагічнага бедства. Небяспека спакваля нарастае.

Ужо цяпер у многіх дзяцей рэгіструюцца змяненні ў сістэме імунітэту, якія могуць прывесці і прыводзяць да аўтаімунных, алергічных і анкалагічных захворванняў.

Ужо сёння масавы характар набываюць адхіленні ад нормы і цяжкія захворванні шчытападобнай залозы, у тым ліку і рак, выразна праследжваюцца анеміі, захворванні страўніка, дыхальных шляхоў. Па чарнобыльскай зоне 250 тысяч дзяцей маюць патрэбу ў лячэнні.

Медыка-дэмаграфічная сітуацыя ў Беларусі характарызуецца ўстойлівым павышэннем агульных захворванняў дзяцей, асабліва ранніх узростаў, а таксама цяжарных жанчын і жанчын дзетароднага ўзросту, павелічэннем частаты паталогій, асабліва па чарнобыльскай зоне.

Зусім відавочна, што без адпаведнай экалагічнай дзяржаўнай палітыкі ўсіх сацыяльна-экалагічных праблем нам не вырашыць.

І менавіта дзеля гэтага канферэнцыя прымае разгорнутую рэзалюцыю:

• Зыходзячы з непамернага цяжару эканамічных, сацыяльных, экалагічных наступстваў чарнобыльскай катастрофы, іх драматычнага характару, звярнуцца да ўрада, Вярхоўнага Савета і Прэзідэнта з прапановай у найкарацейшы тэрмін (пакуль дазваляе час) падрыхтаваць і перадаць у Міжнародны суд у Гаазе матэрыялы аб пакрыцці страт Беларусі, прычыненых аварыяй на ЧАЭС, у адпаведнасці з міжнароднымі прававымі нормамі.

• Адзначыць важнасць работы па стварэнні маніторынга прадуктаў харчавання, у мэтах чаго наладзіць комплексную сістэму дзяржаўных і грамадскіх пунктаў кантролю з іх абавязковым бюджэтным фінансаваннем.

• Надаючы выключнае значэнне забеспячэнню насельніцтва чыстымі і багатымі на вітаміны прадуктамі харчавання, прапанаваць ураду і непасрэдна Мінсельгаспроду распрацаваць у тэрміновым парадку рэспубліканскую праграму вытворчасці, эфектыўнага захоўвання і перапрацоўкі садавіны і агародніны, распачынаючы яе рэалізацыю ўжо ў 1994-1995 гадах.

• Кіруючыся гэтымі ж мэтамі, канферэнцыя падтрымлівае вучоных, якія працуюць практычна амаль заніштo і дасягаюць выдатных вынікаў у галіне радыебіялогіі, генетыкі, радыяцыйнай медыцыны, сельскагаспадарчай радыялогіі, экалогіі, сацыяльна-эканамічных праблем, у даследаванні 30-кіламетровай зоны і лічыць, што такой жа грамадскай і дзяржаўнай падтрымкі варты даследаванні і эксперыменты па аздараўленні глебы з дапамогай сапрапеляў і вырошчвання рапсу на тэхнічныя мэты ў зоне забруджання радыенуклідамі.

• Масавыя захворванні, справакаваныя хімічнымі і радыяцыйнымі забруджаннямі, іх масавы характар, нарэшце, інтарэсы захавання этнасу на Беларусі патрабуюць навукова абгрунтаванай канцэпцыі тварэння і ўмацавання здароўя насельніцтва, што, у сваю чаргу, вымагае наступнага:

а) распрацоўкі і прыняцця Вярхоўным Саветам Закона аб захаванні здароўя насельніцтва Рэспублікі Беларусь;

б) уліку ў аздараўленчых медыцынскіх праграмах нетрадыцыйных і народных методык, натуральнага і прыроднага ўздзеяння на арганізм, гомакібернетыкі і самарэгуляцыі дзеля павышэння ўстойлівасці і надзейнасці арганізма;

в) вывучэння працэсу індывідуальнай адаптацыі да неспрыяльных экалагічных фактараў і распрацоўкі мер павышэння ўстойлівасці арганізма чалавека з дапамогай жывых сокаў і бялковага харчавання;

г) аб'яднання ў рамках інтэграванай міжнароднай праграмы СІНДзі намаганняў розных дзяржаўных і грамадскіх арганізацый і фондаў, якія займаюцца аздараўленнем, надання гэтай праграме нацыянальнага характару;

д) стварэнне адзінай дзяржаўнай сістэмы аздараўлення і рэабілітацыі дзяцей, улічваючы ініцыятывы грамадскіх арганізацый, спыненне бескантрольнага выкарыстання прафсаюзамі сродкаў на гэтыя мэты. Беларусь — зона экалагічнага бедства, і ўсім дзецям, без выключэння, патэбна чыстае харчаванне, медыцынскае і фізічнае аздараўленне. Без дзяцей у дзяржавы няма будучыні;

**9. Канферэнцыя адзначае станоўчы вопыт, набыты бабруйскай сярэдняй школай №16 у сацыяльным выхаванні вучняў, стварэнні на базе дзіцячых садоў, гэтай школы і ў цэлым паселішча сацыяльна-педагагічнага комплексу (СПК), у якім зніталіся ў адзінае цэлае інтарэсы вучняў, педагогаў, бацькоў.**

**Улічваючы, што пяцігадовы педагагічны эксперымент у Бабруйску даў станоўчы вынік і падтрыманы Міністэрствам адукацыі Беларусі, што ён уваходзіць у праграму БелСаЭС "Чарнобыль" па ўкараненні ў школах Рэспублікі бесперапыннага навучання і выхавання "Экаполіс, культура, здароўе", лічыць неабходным аднавіць СПК як надзвычай важны і выніковы дзяржаўны эксперымент, спынены ў 1993 годзе без пэўных падстаў.**

• Прымаючы да ведама гатоўнасць Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь пэўным чынам удзельнічаць у выкананні дзяржаўных экалагічных праграм, прапанаваць Міністэрству абароны распрацаваць і ўвесці ў дзеянне з 1995 года праграму экалагічнай падрыхтоўкі воінаў (у адпаведнасці з праектам Закона "Аб адукацыі ў галіне навакольнага асяроддзя", п.5).

• Прапанаваць кампетэнтным органам краіны распрацаваць праграму пераўтварэння ў 1994-95 гадах падраздзяленняў Грамадзянскай абароны і пажарных падраздзяленняў у Экалагічныя войскі Рэспублікі Беларусь з іх адпаведным статусам, экалагічнай і грамадзянскай падрыхтоўкай, пэўнай аснашчанасцю.

• Перасцерагчы ўрад Рэспублікі Беларусь ад прыняцця праграмы будаўніцтва атамных электрастанцый на Беларусі без грунтоўнага і шырокага абмеркавання вучонымі і спецыялістамі з удзелам прадстаўнікоў экалагічных рухаў.

• Разгарнуць незалежную экспертную раду БелСаЭС "Чарнобыль" у аргкамітэт па аб'яднанні вучоных, спецыялістаў, прадстаўнікоў грамадскіх арганізацый і рухаў для выпрацоўкі праграмы выхаду з экалагічнага крызісу.

ДА САМАГА СІНЯГА МОРА

Брыгада праваднікоў, якая абслугоўвае цягнік Мінск—Сімферопаль, амаль напалову складаецца з будатрадаўцаў. У асноўным гэта студэнты мінскіх ВНУ. Многія працуюць тут не ўпершыню. А прываблівае іх сюды магчымасць пападарожнічаць. І, безумоўна, неблагі заробак.

НА ЗДЫМКУ: перад рэйсам. Злева направа — студэнткі Беларускага педагагічнага універсітэта Аксана Казюкевіч, Наталля Куліненка, Алеся Лебедзева, Наталля Трус і Святлана Аксючыц.

Фота Віктара ТАЛОЧКІ, БЕЛІНФАРМ.

НГ-іНФАРМ

# МЕЦЭНАТЫ З "БМХА"

Сапраўднае свята ў выхаванцаў дзіцячага сада № 557 Маскоўскага раўна, які знаходзіцца ў сталічным мікрараёне "Малінаўка", было некалькі тыдняў назад. У садку з'явіліся прыгожыя нацыянальныя касцюмы, як дзіцячыя, так і дарослыя. Гэты шыкоўны падарунак зрабіла нам сумеснае беларуска-в'етнамскае прадпрыемства "БМХА", якім кіруе Валерый Аляксандравіч ПРАКУДЗІН.

Мы вельмі ўдзячны нашым мецэнатам, бо цяпер вельмі цяжка знайсці людзей, якія дбаюць аб будучым нашай Рэспублікі і ўкладваюць сродкі ў выхаванне падрастаючага пакалення.

Нашы выхавацелі добра ўсведамляюць свае месца і ролю ў адраджэнні нацыянальнай свядомасці дзяцей, іх бацькоў, выхавання любві і павагі да роднай мовы і культуры. Дзеля таго, каб абудзіць ў дзяцей пачуццё гонару за родныя мясціны, за свой горад, у садку праводзяцца заняткі па знаёмству з сучаснасцю, з гісторыяй роднага краю. Гэта і сустрэчы з цікавымі людзьмі, і экскурсіі, і фальклорныя народныя святы.

Нацыянальнае Адраджэнне, вяртанне да родных каранёў — той падмурак, на якім неабходна будаваць светлае і высокае пачуццё нацыянальнай самасвядомасці.

І добра, што гэта разумеюць не толькі педагогі, а і прадпрымальныя людзі.

**Валянціна БУБЕН,**
**метадыст мінскага дзіцячага сада № 557.**

# "Мы хочам палепшыць адукацыю ўсіх дзяцей"

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

водле праграмы "Трансфармацыя гуманітарнай адукацыі ў Беларусі". Ці ёсць падобныя конкурсы або праграмы ў ЗША? Якія ідэі трансфармацыі адукацыі папулярныя ў вашай краіне?

— У ЗША прадугледжваюцца гранты, вылучаемыя дзяржаўным Дэпартаментам адукацыі на канкурэнтнай аснове і мэтанакіраваныя як на ўдасканаленне школы, так і на пошукавыя ласледаванні. Папулярныя такія інавацыйныя ідэі: Камп'ютэрнадыстантнае навучанне; Кааператыўнае (сумеснае) навучанне; Навуковы (у тым ліку матэматычны) трэнінг; Мастацтва і гуманітарныя навукі; "Бізнесізацыя" школы, ці Інвазія бізнесу ў школьны педагагічны працэс. Гэтыя "бізнесы" (вельмі новы тэрмін) сцвярджаюць, што яны змогуць палепшыць навучанне школьнікаў.

— Калі я правільна зразумеў з Вашага даклада, Вы праводзіце са сваімі студэнтамі ў выпускных класах спецыяльныя заняткі, якія мадэлююць некаторыя формы ўрокаў, важныя для будучых педагогаў. Калі так, то як яны праводзяцца?

— Метад, да распрацоўкі якога я маю дачыненне, толькі адзін з многіх, якія я выкарыстоўваю. Часам чытаю лекцыі, патрабую ад студэнтаў дапрацоўваць свае даследаванні ў бібліятэцы, прапаную ім весці назіранні пад час заняткаў, пісаць артыкулы па зададзенай тэматыцы, звязанай з адукацыяй, абмяркоўваць pro і contra таго ці іншага палажэння, працаваць у групах вырашэння праблем, дыскутаваць у класе паводле літаратурных твораў, якія вучням належыць ведаць. Тут не так многа метадаў, якія можна было б выкарыстоўваць. Усе яны прымяняюцца дзеля таго, каб стымуляваць студэнтаў адкрываць новыя ўяўленні (крэатыўныя ідэі) аб рабоце з дзецьмі. Канчатковая мэта такога ўрока можа быць дасягнута рознымі педагагічнымі сродкамі. Студэнты атрымліваюць адпаведныя кнігі, каб пасля прачытання ў іх з'явілася нагода для дыскусій. Уваходзячы ў кола педагагічных ідэй, яны вучаць адзін аднаго.

— Ці прымаеце Вы ўдзел у гэтых занятках?

—Так. Я дапамагаю студэнтам сканцэнтравацца на наперадвызначаных мэтах.

—Што азначае "школа-прататып з нязвыклым наборам праблем"? І якія гэта праблемы, дзеля прыкладу?

—Школа-прататып — гэта школа-ўзор, якая мае ўсе характарыстыкі рэальнай школы. У некаторых з іх вялікія групы дзяцей з бедных сем'яў, у другіх можа быць занадта тых, хто дрэнна размаўляе па-англійску, у трэціх вучні пераважна з заможных сем'яў. У вашай краіне падобнымі праблемамі былі б, скажам, вывучэнне любой іншай "мясцовай" мовы, акрамя рускай, ці дапамога дзецям або сем'ям, пацярпеўшым ад чарнобыльскай трагедыі. Праблемы і сітуацыі могуць быць розныя ў кожным школьным раёне, але ёсць базавыя прынцыпы пераадолення іх шляхам планавання мэт, якія вынікаюць са светапоглядных прынцыпаў, і трансфармаванне іх у дзейнасць, якая дапамагае дасягнуць гэтых мэт.

—Асабіста мая даследчая праблема, якой я займаюся вось ужо два гады, гучыць так: распрацоўка метадалагічных прынцыпаў адукацыі, якая б знаходзілася ў адпаведнасці з чалавечай прыродай, і пабудова на іх аснове мноства "дапушчальных Прыродай" адукацыйных метадаў і методык (прынамсі, характарызацыя гэтага мноства).

— Пракаменціруйце, калі ласка, такі падыход. Наколькі ён вам блізкі?

—Большасць падыходаў да навучання (педагогікі), якія я развіваю, заснавана на філасофіі, у цэнтры якой — Чалавек. Так што падабенства ёсць. Паводле маіх прац і перакананняў, чалавекацэнтрысцкі падыход прызнае ідэю, што веды канструіруюцца па-за вопытам. Ёсць дзве філасофскія разнавіднасці гэтага падыходу — прагматызм і экзістэнцыялізм. Для прагматыста адукацыя — гэта не падрыхтоўка да жыцця, але само жыццё. Сярод здольнасцяў, якія цікавяць прагматыста, большасць такія, ад якіх залежыць выкананне інтэлектуальных дзеянняў накшталт чытання, міжасабовыя ўзаеміны, слуханне, размова, вылічэнні, задаванне пытанняў, фармулёўка праблем, збор даных, адбор даных, вывядзенне лагічных вынікаў і г. д. Што ж да экзістэнцыялізму, то ён не з'ўляецца філасофіяй у поўнай меры, гэта, хутчэй, пазіцыя у адносінах да жыцця. Замест формулы "Я думаю, значыць, я існую" экзістэнцыяліст выкарыстоўвае формулу "Я існую, значыць, я думаю". Чалавек не можа вызваліць сябе ад адказнасці за выбар, і, выбіраючы, ён праяўляе сябе. Найбольш падыходзяць для падобнай філасофіі такія віды дзейнасці, як маляванне, музыка, скульптура, літаратура, паэзія, драматургія, харэаграфія. Яна спрыяе інтраспекцыі.

— Калі ласка, некалькі слоў аб кожным з метадаў: кааператыўнае навучанне, індуктыўнае разважанне, крэатыўнае праблемавырашэнне.

— Каапeратыўнае навучанне. Навучэнцы фармуюць групы з 4—5 чалавек і разам працуюць над вырашэннем праблем. Кожны член групы павінен удзельнічаць у працы. Так можна вырашаць праблемы не толькі матэматычныя, але і па іншых прадметах. Вучні ў працэсе цесных узаемінаў вучацца паважаць думку іншых, быць памяркоўнымі да тых, хто думае павольней.

Індуктыўнае разважанне. Гэта працэдура, якая дапамагае вучням будаваць гіпотэзы з даных і фактаў і знаходзіць адказы на пытанні, выкарыстоўваючы тыя ж даныя і факты. Крэатыўнае праблемавырашэнне. Вучні вывучаюць нейкую праблемную сітуацыю і выкарыстоўваюць некалькі "новых" метадаў для вырашэння праблемы. Яны задаюць шэраг пытанняў, праводзяць "мазгавы штурм" (калі можна ўносіць любыя прапановы, бо крытыка забаронена) і потым разглядаюць кожную з прапаноў як магчымае вырашэнне праблемы. На жаль, гэты эфектыўны падыход выкарыстоўваецца зусім недастаткова ў педагагічнай практыцы.

**Пытанні задаваў**
**Уладзімір ТРАЦЦЯКОЎ,**
**кандыдат фізіка-матэматычных навук.**

**Для даведкі.** Алексінія Янг Болдуін абараніла дыпломную работу па праблемах пачатковай школы, а магістарскую дысертацыю — па псіхалогіі пачатковай школы. Мае званне доктара філасофіі па спецыяльнасці "Навучанне адораных і распрацоўка навучальных праграм". Была настаўніцай музыкі ў агульнаадукацыйнай школе, выкладала ў 5—8 класах для адораных, была дацэнтам па навучальных праграмах універсітэта ў Олбэні, штат Нью-Ёрк. Зараз яна прафесар, загадчык кафедры навучальных праграм і навучання ва універсітэце штата Канектыкут. Яе грамадскія пасты: дырэктар Міжнароднай праграмы для настаўнікаў, якая ажыццяўляецца ў супрацоўніцтве з універсітэтамі Англіі, Германіі і Францыі,Прэзідэнт Асацыяцыі па праблемах адоранасці.

СТУДЭНЦКАЯ НАВУКА І ПРАКТЫКА

# ЭКСПЕДЫЦЫЯ НА ХАЙДАРКАН

## БЕЗ ВЕДАННЯ ГЕАЛОГІІ НЕ БЫВАЕ НАСТАЎНІКА ГЕАГРАФІІ

Самастойная работа студэнтаў — адзін з самых важных відаў навучальна-выхаваўчага працэсу ў вышэйшай школе. Формы яе — самыя разнастайныя і арыентаваны на пэўную катэгорыю студэнцтва: членаў гурткоў і навуковых таварыстваў, удзельнікаў студэнцкіх навуковых канферэнцый, членаў лектарскіх груп, проста найбольш падрыхтаваных студэнтаў і г.д. Сярод формаў арганізацыі работы студэнтаў адзначым лекцыі і семінары, лабараторныя і практычныя заняткі, палявыя і педагагічныя практыкі, курсавыя і дыпломныя работы. Адной з такіх формаў могуць стаць і студэнцкія навуковыя экспедыцыі, дзе актыўна рэалізуюцца элементы навуковага даследавання, праяўляюцца творчая актыўнасць, асабістая ініцыятыва, чалавечыя і маральныя якасці студэнтаў. Мы праводзім кароткатэрміновыя (2 — 3 дні) і працяглыя (1 — 2 месяцы) навуковыя экспедыцыі ў рамках дзейнасці геалагічнай лабараторыі кафедры геаграфіі, якая вядзе гаспадарча-дагаворныя навукова-даследчыя работы з геалагічнымі і горна-металургічнымі прадпрыемствамі краін СНД і дзяржбюджэтныя работы па плану кафедры інстытута для розных арганізацый Беларусі.

Геалогія — фундаментальная навука аб будове, рэчавым саставе і гісторыі фармавання Зямлі. Яна арганічна звязана з адной з самых старажытных навук аб нашай планеце — геаграфіяй. Сучаснае аблічча Зямлі геаграфія не магла б растлумачыць, не абапіраючыся на геалагічную аснову. Зусім заканамерна, што веданне геалогіі з'яўляецца састаўной часткай агульнай адукацыі і ляжыць у аснове падрыхтоўкі настаўніка геаграфіі. Настаўнік-географ павінен валодаць метадамі палявых даследаванняў і апрацоўкі сабраных матэрыялаў, таму ўдзел студэнтаў у навуковых экспедыцыях, знаёмства з асаблівасцямі жыцця і работы ў палявых умовах, выкананне канкрэтных практычных работ і многае іншае садзейнічае больш сур'ёзнай прафесійнай падрыхтоўцы студэнтаў, развіццю іх навуковага мыслення і інтарэсаў, прывіццю навыкаў даследчай творчай працы.

Веданне геалогіі, уменне правільна вызначыць мінералы, горныя пароды, руды, выкапнёвую флору і фауну, апісаць геалагічныя агаленні, складаць разрэзы і профілі, расшыфроўваць палеагеаграфічнае мінулае свайго раёна ў значнай меры набываецца ў час геалагічных экспедыцый і паходаў, дзе адначасова вырашаюцца экалагічныя і прыродаахоўныя пытанні. Апрача таго, студэнты адбіраюць і апрацоўваюць мінералагічныя і геалагічныя пробы, падрыхтоўваюць іх да хімічных, спектральных, фазавых, прабірных, мінералагічных і тэхналагічных даследаванняў, г.зн. актыўна ўдзельнічаюць у канкрэтнай рэалізацыі гаспадарча-дагаворнай тэматыкі кафедры.

Географ — гэта краязнавец, таму краязнаўчыя і прыродаахоўчыя навыкі з'яўляюцца элементамі яго прафесійнай падрыхтоўкі. Менавіта прафесійная накіраванасць навучання арыентуе студэнта-географа і настаўніка геаграфіі на набыццё гэтых навыкаў і ўменне самастойна праводзіць геалагічныя паходы са школьнікамі. А падобныя навыкі і ўменні студэнты набываюць у час геалагічных экспедыцый і паходаў.

Пасля зацвярджэння на кафедры маршруту і саставу ўдзельнікаў кароткатэрміновай навуковай экспедыцыі ўсе студэнты адпрацоўваюць лабараторныя і практычныя заняткі, якія прыпадаюць па раскладзе на перыяд правядзення экспедыцыі. Колькасць удзельнікаў — 8 — 10 чалавек. Асноўная мэта — збор і папярэдняя апрацоўка першаснага матэрыялу з наступным даследаваннем ужо ў камеральных умовах.

У навуковай тэматыцы кафедры і інстытута значыцца, напрыклад, тэма па вывучэнні бурштынаноснасці паўднёва-заходняй часткі Беларускага Палесся. Збор палявога матэрыялу па данай тэме практычна поўнасцю ажыццяўляецца за кошт студэнцкіх навуковых экспедыцый. Ужо сабраны і апісаны шматлікія знаходкі бурштыну ў раёнах вёсак Азяты, Бараны, Сычова, Богданы, Каташы, Хітры Брэсцкай вобласці. Даследаваны берагавыя адкладанні ракі Мухавец ад Кобрына да Брэста. Выяўлены і закартаваны знаходкі бурштыну ў пляжнай зоне возера Мотыль і ў раскрышных пародах гранітнага кар'ера Мікашэвічы. Устаноўлена, што ўсе гэтыя бурштынапраяўленні адносяцца да алювіяльна-ледніковых і азёрна-балотных фацый чацвярцічнага ўзросту.

Камеральная апрацоўка палявога матэрыялу праводзіцца студэнтамі адразу ж пасля вяртання з кароткачасовай экспедыцыі. Размеркаванне абавязкаў узгадняецца з тэматыкай будучых курсавых работ г.зн. кожны ўдзельнік экспедыцыі індывідуальна працуе з матэрыялам палявых работ, самастойна апрацоўвае яго, рыхтуе графіку (разрэзы, профілі, замалёўкі агаленняў, схемы, карты). Найбольш цікавыя ўзоры бурштыну ўключаюцца ў адзіную калекцыю геалагічнай лабараторыі і адпраўляюцца ў даследчыя лабараторыі Мінска, Гродна, Кіева, Масквы для вызначэння элементарнага хімічнага саставу, ІК-спектраскапіі, люмінесцэнцыі, удзельнай вагі, мікрацвёрдасці, рэнтгенаскапіі. Атрыманыя вынікі выкарыстоўваюцца ў зводнай справаздачы лабараторыі, у курсавых работах і навуковых публікацыях. Мы апублікавалі ўжо больш як 20 работ, дзе студэнты з'яўляюцца паўнапраўнымі саўтарамі, бо яны ўдзельнічаюць практычна ва ўсім працэсе падрыхтоўкі артыкула да друку — ад збору і апрацоўкі першаснага матэрыялу да афармлення графікі і друкавання самога артыкула. Абаронена некалькі курсавых і дыпломных работ па бурштынавай тэматыцы, лепшыя з якіх адзначаны дыпломамі і граматамі Міністэрства адукацыі і Геаграфічнага таварыства Беларусі. Наяўнасць бурштыну ў адкладаннях чацвярцічнага ўзросту з'яўляецца своеасаблівым крытэрыем пошукавых работ на выяўленне больш багатых залежаў бурштыну ў пародах палеагену, асабліва ў заходняй частцы Палескай бурштынаноснай вобласці. Да гэтай высновы прыводзяць папярэднія вынікі, атрыманыя ў выглядзе абагульнення матэрыялаў кароткатэрміновых геалагічных студэнцкіх экспедыцый.

Працяглыя навуковыя экспедыцыі ў плане гаспадарча-разліковых работ разглядаюцца як палявыя работы. Такія экспедыцыі праводзяцца, у асноўным, у канікулярны час і ўдзельнікі (3 — 5 чалавек) з'яўляюцца штатнымі супрацоўнікамі гаспадарчага дагавора, за кошт якога ажыццяўляецца фінансаванне экспедыцыі (праезд, камандзіровачныя расходы, заработная плата, аплата аналізаў і г.д.). У час палявых работ адбіраюцца мінералагічныя і тэхналагічныя пробы з кар'ераў, шахтаў, узбагачальных фабрык і металургічных заводаў, праводзіцца іх першасная апрацоўка і падрыхтоўка да хімічных, спектральных, прабірных, грануламетрычных, фазавых, сілікатных і радыеметрычных аналізаў, робяцца выпіскі і выкапіроўкі з вытворчых і навукова-даследчых фондавых справаздач, арганізуюцца маршрутныя пошукавыя работы, аналізуецца керн буравых свідравін.

За апошнія 5 — 7 гадоў былі арганізаваны падобныя экспедыцыі на ртутныя радовішчы Акташ і Чаган-Узун (Горны Алтай), ртутна-сурмяна-флюарытавыя — Хайдаркан і Чаўвай (Паміра-Алай), поліметалічныя і ртутныя — Сауляк і Вышкава (Закарпацце), ртутныя — Белакаменнае і Сахалін (Паўночны Каўказ) і ртутна-сурмяныя радовішчы Нікітаўскага руднага поля (Данбас).

Цяжка пераацаніць значэнне такіх экспедыцый для станаўлення будучага настаўніка геаграфіі. Пабываць у забалочаных далях на вышынях да 3000 метраў над узроўнем мора ў снежных гарах Паміра-Алая, паглядзець нараджэнне Вялікай ракі Сібіры — Абі, пабываць у месцы зліцця рэк Бії і Катуні, у рэліктавай кедравай тайзе на Алтаі, назіраць змену лясоў з граба і бука на хвойныя ў Закарпацці, там жа прайсці ледзь не да вытокаў ракі Цісы і, нарэшце, спусціцца ў ртутныя шахты, дзе ў асобных камерах — у карставых пустотах — можна назіраць рост і ўтварэнне сталактытаў і сталагмітаў. Такое застаецца на ўсё жыццё і з'яўляецца выдатным стымулам для далейшых падарожжаў.

У камеральны перыяд, які залежыць ад тэрмінаў выканання гаспадарча-дагаворнай работы, студэнты адбіраюць монамінеральныя фракцыі рудных і жыльных мінералаў пад мікраскопам, складаюць схемы апрацоўкі проб, вычэрчваюць геалагічныя разрэзы і карты і, вядома, выкарыстоўваюць найбагацейшы палявы матэрыял для выканання курсавых і навуковых работ, лепшыя з якіх дакладваюцца на студэнцкіх навуковых канферэнцыях, а затым дапрацоўваюцца на наступных курсах да дыпломных работ.

Многія ВНУ краіны вядуць пастаянны пошук шляхоў і сродкаў павышэння эфектыўнасці работы студэнтаў. Вядома, на гэтым шляху ёсць цікавыя і карысныя знаходкі. Аднак у многіх выпадках яны застаюцца "ўласнасцю" саміх выкладчыкаў. Таму вельмі неабходна актыўная інфармацыя па гэтых актуальных пытаннях. Узмацненне ўвагі да студэнцкіх навуковых экспедыцый як да асаблівага віду самастойнай работы — эфектыўны шлях да поспеху ў навучальна-выхаваўчым працэсе.

Вяртаючыся з экспедыцый, актыўна ўдзельнічаючы ў апрацоўцы атрыманых вынікаў, студэнты па-іншаму разумеюць мэту навуковай работы, бачаць яе перспектыву, яе карыснасць для патрэб народнай гаспадаркі. Яны на канкрэтнай справе прымяняюць свае веды і вынаходлівасць, авалодваюць методыкай навуковага пошуку, вучацца лагічна разважаць у нестандартных сітуацыях, актыўна ўключаюцца ў вырашэнне праграмы даследаванняў свайго кіраўніка і кафедры.

Геалагічныя экспедыцыі — гэта складаная ў метадычных адносінах форма заняткаў. Яны патрабуюць старанней падрыхтоўкі студэнтаў і выкладчыкаў, садзейнічаюць вывучэнню і развіццю мінеральна-сыравіннай базы свайго краю, вобласці, вывучэнню геалагічных працэсаў і іх уплыву на гаспадарчую дзейнасць чалавека.

Адабраныя і апісаныя ўзоры руд, мінералаў, горных парод і акамянеласцяў выкарыстоўваюцца не толькі для вырашэння канкрэтных задач, але і як раздатачны матэрыял пры правядзенні заняткаў па геалогіі, а ўнікальныя ўзоры накіроўваюцца ў геалагічныя і краязнаўчыя музеі. Так, толькі за апошнія тры — чатыры гады аформлены і адпраўлены калекцыі беларускага бурштыну ў Музей Зямлі ў Варшаве, у Музей Прыроды і экалогіі Беларусі, у Калінінградскі Музей бурштыну і мінералагічны музей Інстытута геалогіі і геахіміі Акадэміі навук Беларусі.

Важнай самастойнай рабоце студэнтаў з'яўляецца і палявая практыка па геаграфічных дысцыплінах, у тым ліку і па геалогіі, якую студэнты аддзялення геаграфіі і біялогіі праходзяць у палявых умовах пасля першага і другога года навучання, прычым гэтыя практыкі мы таксама разглядаем як студэнцкія навуковыя экспедыцыі.

Асноўнымі задачамі палявой практыкі па геалогіі з'яўляюцца замацаванне і паглыбленне ведаў аб мінералах, горных пародах і рудах, іх саставе, умовах залягання, працэсах утварэння, авалоданне навыкамі адбору, першаснай апрацоўкі і складання дакументацыі ўзораў руд, мінералаў, горных парод і акамянеласцяў, апісанне геалагічных агаленняў, складанне схем, картаў, профіляў, разрэзаў і г.д.

Палявыя даследаванні з'яўляюцца асновай для фармавання геалагічных і геаграфічных паняццяў. Па горных пародах, іх заляганні, рэльефе паверхні можна прачытаць пра іх паходжанне, змяненне і пераўтварэнне, даведацца пра ўласцівасці парод і прыгоднасць іх у гаспадарчай дзейнасці чалавека, аднавіць фізіка-геалагічныя працэсы, пранікнуць у гісторыю развіцця зямной кары, даведацца аб парушаным і непарушаным заляганні пластоў горных парод, умовах "пахавання" выкапневых арганізмаў, месцанараджэннях карысных выкапняў.

Вялікае значэнне мае выбар аб'ектаў даследаванняў. Сістэматычны ж зварот да краязнаўчых даных дапамагае будучаму настаўніку геаграфіі ў самастойнай даследчай рабоце. А палявая практыка па геалогіі арганізавана так, што яна накіравана не толькі на выпрацоўку навыкаў і ўменняў палявых даследаванняў наогул, але і мае на мэце глыбокае знаёмства прыродай свайго краю, на аснове навуковага пазнання.

Адным з аб'ектаў такіх палявых даследаванняў на першым курсе з'яўляецца Картуз-Бярозаўскае радовішча мелу. Радовішча размешчана ў Бярозаўскім раёне Брэсцкай вобласці, дзе мелавы "адарванец" складзены канчаткова-моранымі адкладаннямі і заключанымі ў ім мелавымі пародамі. Літалагічна яны прадстаўлены пяскамі, супесямі і пісчай крэйдай. Пад глебаараслінным слоем непасрэдна залягаюць рознагазярністыя пяскі з уключэннем гравію, галькі, гліністых часцінак і грубых шчыльных мораных супесяў. Магутнасць ускрышных парод змяняецца ад 4 да 14 м. Карысным выкапнем на радовішчы з'яўляецца мел белага колеру з праслоямі ажалязнення охрыстага колеру, з уключэннямі крэмневай галькі. Магутнасць карыснага выкапня змяняецца ад 2,2 да 10,5 метра. Падсцілаючыя пароды прадстаўлены пяскамі і супесямі.

Радовішча эксплуатуецца ўжо больш як 80 гадоў. Плошча зямельнага адводу па месцанараджэнні складае 31 гектар. На гэтай плошчы знаходзіцца Нова-Бярозаўскі камбінат сілікатных вырабаў, сыравіннай базай якога з'яўляецца месцанараджэнне. На прадпрыемства арганізуецца экскурсія. Мэта экскурсіі — вывучэнне канчатковай прадукцыі перапрацоўкі карыснага выкапня — кармавога мелу, будаўнічай вапны і сценавых блокаў.

На месцанараджэнні студэнты аналізуюць фондавыя матэрыялы, якія знаходзяцца на камбінаце, робяць выкапіроўкі, разрэзы, розныя выпіскі, вывучаюць і апісваюць агаленні горных парод па прапанаваным плане, звяртаючы ўвагу на ўзаемаразмяшчэнне горных парод, наяўнасць неўзгадненняў і г.д.

Акрамя таго, складаюць характарыстыку карыснага выкапня, дапоўненую апісаннем экалагічнага стану вакол перапрацоўчага прадпрыемства, адлюстроўваюць мерапрыемствы па рэкультывацыі зямель, вывучаюць экзагенныя працэсы ў выглядзе геалагічнай дзейнасці ветру і часавых вадатокаў, выветрыванне, якія выразна праяўляюцца ў бортах кар'ера, складаюць слайд-кампазіцыю, якую затым дапаўняюць тэкстам, вызначаюць і апісваюць выкапнёвую фауну, узоры мелу, крэмневай галькі, бурага вугалю і г.д.

На месцанараджэнні сустракаецца вялікая колькасць крэмневай галькі, якая знаходзіцца не толькі ва ўскрышных пародах, але і ў меле, з'яўляючыся бічом вытворчасці на заводзе. Але студэнтам яна цікавая па дзвюх прычынах: па-першае — гэта асаблівасці мінералагічнага саставу і ўтварэнне агатападобных рознасцяў, па-другое — марфалагічныя асаблівасці крэмняў. Студэнты, якія атрымалі індывідуальныя заданні па данай тэматыцы, адбіраюць і апісваюць найбольш цікавыя ўзоры.

Кожны студэнт самастойна апрацоўвае матэрыялы палявых даследаванняў (карэкціруе палявыя апісанні, вычэрчвае схемы, замалёўкі агаленняў, геалагічныя разрэзы, афармляе калекцыю і г.д.). Вялікае значэнне тут надаецца рабоце з навуковай літаратурай. Выкананыя індывідуальныя работы з'яўляюцца асновай для выканання групавой справаздачы па палявой практыцы. Таму выкананне індывідуальных заданняў павышае пачуццё адказнасці, дае магчымасць самастойна вырашаць тыя ці іншыя практычныя пытанні.

Матэрыялы па выніках палявой практыкі прадстаўлены на выстаўцы добра аформленымі групавымі справаздачамі і калекцыйным матэрыялам. Адна з калекцый была прадстаўлена крэмнямі розных мудрагелістых формаў. Узоры артымалі разнастайныя назвы: "Слонік", "Смоўж", "Дыназаўрык", "Усебачнае вока" і інш. Экземпляры гэтай калекцыі папоўнілі кампазіцыю "Камень і фантазія" геалагічнага музея інстытута і абласнога краязнаўчага музея Брэста.

Найбольш цікавыя паведамленні па выніках самастойных даследаванняў у час палявых практык дакладваюцца на студэнцкіх навуковых канферэнцыях і з'яўляюцца асновай будучых курсавых работ, а ў наступным і фрагментамі дыпломных работ.

Па аналагічнай краязнаўчай прыкмеце пабудавана правядзенне палявой практыкі па геалогіі на другім курсе, якая праходзіць на радовішчах Прыкарпацця (Раздол, Надворнае, Драгобыч) і Закарпацця (Мужынёва, Вышкава, Дзелавое, Салатвіно), дзе студэнты, выконваючы індывідуальныя заданні па асобных аб'ектах — поліметалы, ртуць, цэаліты, андэзіты, туфы, мармуры, мінеральныя воды, самародная сера, нафта і інш. — сумесна пішуць агульную справаздачу, якасна павышаючы ўзровень афармлення сабранага матэрыялу ў параўнанні з першым курсам. Асноўная частка сабранага матэрыялу пасля выкарыстоўваецца ў курсавых і дыпломных работах, якія выконваюцца па індывідуальных заданнях.

Курсавыя і дыпломныя работы маюць вялікае значэнне ў вырашэнні задачы ўзмацнення сувязі вышэйшай школы з жыццём і для павышэння якасці спецыяльнай прафесійнай падрыхтоўкі студэнтаў. Яны стымулююць актыўную самастойную працу даследчага характару, развіваюць навыкі работы з апублікаванай літаратурай, фондавымі і палявымі матэрыяламі. Найбольшы эфект у самастойнай рабоце дасягаецца ў спалучэнні аналізу літаратурных крыніц з элементамі навуковага самастойнага пошуку, які фармуецца ў працэсе палявых даследаванняў і назіранняў у час палявой практыкі.

Такім чынам, самастойная работа ў рамках студэнцкіх навуковых экспедыцый і ў час палявых практык па геалогіі з'яўляецца важным звяном у падрыхтоўцы кваліфікаванага спецыяліста — настаўніка геаграфіі і біялогіі.

Усё гэта дапамагае станаўленню асобы будучага настаўніка геаграфіі — адказнасці за даручаную справу, самастойнасці, працавітасці, пачуцця калектывізму, страснасці даследчыка і іншых якасцяў, такіх неабходных для спецыяліста з вышэйшай педагагічнай адукацыяй.

**Альберт БАГДАСАРАЎ,**
**прафесар Брэсцкага педінстытута.**

ДА НОВАГА НАВУЧАЛЬНАГА ГОДА

# ПРАГРАМА ПА СПЕЦПАДРЫХТОЎЦЫ

## ВУЧЭБНЫЯ ЗБОРЫ ЮНАКОЎ І ПРАКТЫКА ДЗЯЎЧАТ У ЛЯЧЭБНАЙ УСТАНОВЕ

### Вучэбныя зборы юнакоў

**Тэма 1. Экскурсія ў вайсковую часць — 6 гадзін.**

Азнаямленне з размяшчэннем і бытам ваеннаслужачых, гісторыяй вайсковай часці, нормамі забеспячэння ваеннаслужачых тэрміновай службы. Агляд казармы, вучэбных класаў і гарадкоў, спартыўнай базы, салдацкай сталовай, музея, пакоя для захавання зброі.

Азнаямленне з узбраеннем і баявой тэхнікай вайсковай часці. Паказ узбраення і баявой тэхнікі падраздзялення ў дзеянні.

**Тэма 2. Ваенная азбука — 18 гадзін.**

Арыентаванне на мясцовасці без карты. Вызначэнне бакоў гарызонту. Азімут і яго вызначэнне. Паняцце аб арыенцірах і парадак іх назначэння. Выбар і абсталяванне месца для назірання ў залежнасці ад умоў. Знаходжанне цэляў, вызначэнне адлегласці да іх і мясцовых прадметаў. Парадак дакладвання аб выніках назірання (практычныя заняткі). Тапаграфічная карта і тапаграфічныя знакі. Вызначэнне адлегласці і крутасці мясцовасці па карце.

Меры бяспекі на занятках з выкарыстаннем зброі. Будова, парадак разборкі, зборкі, чысткі і змазкі, падрыхтоўкі да стральбы малакалібернай вінтоўкі і аўтамата. Нарыхтоўка для стрэльбы, вытворчасць стрэльбы, зараджанне і разраджанне зброі. Магчымыя затрымкі пры стральбе, парадак іх устаранення.

Вывучэнне ўмоў і выкананне практыкаванняў па стральбе з малакалібернай вінтоўкі, у кіданні ручных гранат. Кіданне гранаты з месца і ў руху, з калена па цэлі.

Выкананне практыкаванняў па стральбе з малакалібернай вінтоўкі і апрабаванне стральбы па мішэні з аўтамата.

Страі і іх элементы. Перастраенне аддзялення з разгорнутага строю ў паходны, і наадварот. Размыканне і змыканне аддзялення. Пастраенне каля машын, пасадка і размяшчэнне. Высадка з машын. Страявыя прыёмы без зброі. Азнаямленне са страявымі прыёмамі са зброяй.

Прызначэнне, састаў і ўзбраенне сутачнага нараду роты. Абавязкі днявальнага па роце і яго падпарадкаванасць. Трэніроўка па практычным выкананні абавязкаў днявальнага.

Першапачатковыя салдацкія ўменні на полі бою. Абавязкі салдата ў баі, яго экіпіроўка. Пераадоленне перашкод, загарод, заражаных участкаў мясцовасці. Самаакопванне і маскіроўка акопа. Выкарыстанне ўкрыццяў. Самадапамога пры раненні.

Ваенная гульня на мясцовасці "Выпрабуй сябе".

**Тэма 3. Фізічная падрыхтоўка — 4 гадзіны.**

Развучванне вольных фізічных практыкаванняў. Значэнне фізічнай зарадкі і практыкаванняў для павышэння працаздольнасці. Правілы бяспекі на занятках з выкананнем фізічных практыкаванняў. Уплыў самастойных заняткаў фізічнымі практыкаваннямі на фізічнае развіццё чалавека. Практыкаванні па развіцці хуткаснасілавых якасцяў. Прафесіянальна-прыкладная фізічная падрыхтоўка з мэтай падрыхтоўкі сябе да вайсковай службы. Згубны ўплыў шкодных звычак на стан здароўя і прыгажосць чалавека.

Развучванне тэхнікі пераадолення перашкод, скачкі ў даўжыню праз траншэю, роў шырынёй 2 і 2,5 м. Пералаз праз сцяну і плот.

Перамяшчэнне па лабірынту. Тэхніка бегу на кароткія дыстанцыі. (Для заняткаў па фізічнай падрыхтоўцы выкарыстоўваецца час, адведзены на правядзенне фізічнай зарадкі і спартыўна-масавай работы).

Комплексныя заняткі па адпрацоўцы нарматываў.

Кантрольныя заняткі — 2 гадзіны.

## ПРАКТЫКА ДЗЯЎЧАТ У ЛЯЧЭБНАЙ УСТАНОВЕ — 30 гадзін.

У лячэбнай установе навучэнцы знаёмяцца з арганізацыяй яе работы, выконваюць працэдуры па догляду за хворымі:

— змена пасцельнай бялізны;
— догляд за хворымі (абціранне, догляд за поласцю рота, прамыванне вачэй, умыванне);
— кармленне і паенне цяжкахворых;
— перакладванне хворага з ложка на каталку і санітарныя насілкі і ў адваротным напрамку, на аперацыйныя і перавязачныя сталы;
— пераноска на насілках і перавозка на каталцы;
— пагрузка на транспарт;
— вымярэнне тэмпературы цела, вызначэнне частаты пульса і дыхання;
— накладанне кампрэсаў і гарчычнікаў;
— пастаноўка кровасосных банак;
— запаўненне кіслароднай падушкі і падача кіслароду;
— падача кіслароду інгалятарамі І-1, КІ-3М;
— прамыванне страўніка зондам;
— падрыхтоўка і пастаноўка ачышчальнай і лячэбнай клізмаў;
— збіранне калу, макрот, мачы хворага для даследаванняў;
— удзел у падрыхтоўцы перавязачнага матэрыялу для стэрылізацыі;
— удзел у накладванні і зняцці бінтавых і гіпсавых павязак;
— удзел у раздачы лекаў.

ДАДАТАК 1

## АСНОЎНЫЯ ПАТРАБАВАННІ ДА ВЕДАЎ, УМЕННЯЎ І НАВЫКАЎ ВУЧНЯЎ ПА СПЕЦЫЯЛЬНАЙ ПАДРЫХТОЎЦЫ

### Патрабаванні базавай адукацыі (5—9 класы)

**1. Азнаёміць**

з уздзеяннем ядавітых, атрутных рэчываў і радыяцыі на арганізм чалавека і жывёл;

з патрабаваннямі, абазначанымі дарожнымі знакамі і ўказальнікамі дарожнага руху, адказнасцю грамадзян за іх парушэнні;

з патрабаваннямі правіл дарожнага руху, якія прад'яўляюцца да вадзіцеляў;

з асаблівасцямі руху аўтатранспарту пры розным надвор'і, у залежнасці ад стану, якасці дарог, магчымымі аварыйнымі сітуацыямі;

з асаблівасцямі паводзін пасажыраў пры руху чыгуначным, паветраным і марскім транспартам; правіламі перамяшчэння групамі і ў калонах.

**2. Даць веды (павінны ведаць)**

Правілы дарожнага руху для пешаходаў і веласіпедыстаў, значэнне патрабаванняў дарожнай разметкі, сігналаў святалфора, рэгуліроўшчыка і транспартных сродкаў.

Нормы паводзін пры руху аўтатранспартам і ў метро.

Правілы паводзін пры дарожна-транспартных здарэннях, значэнне сігналаў, дарожных знакаў пры пераходзе вуліцы, дарогі, чыгуначных пуцей.

Правілы паводзін пры пажарах: у кватэры, доме, школе, у грамадскіх месцах і ў іншых умовах.

Вогненебяспечныя рэчывы і матэрыялы.

Правілы абыходжання з бытавымі электрапрыборамі і газавымі плітамі. Парадак выкарыстання першасных сродкаў пажаратушэння пры пажарах у памяшканнях, узгаранні вадкасцей, электраправодкі і прыбораў. Патрабаванні пажарнай бяспекі ў жылых дамах, памяшканнях школы, на гарышчы, у падвалах.

Парадак паступлення і значэнне сігналаў і інфармацыі штабоў ГА і дзеянні па іх.

Месцы размяшчэння укрыццяў і сховішчаў, шляхі праходжання ў іх. Парадак паводзін у сховішчах. Будова індывідуальных сродкаў аховы, парадак карыстання імі.

Правілы асабістай гігіены, асаблівасці іх выканання ў забруджаных, заражаных раёнах.

**Выпрацаваць уменні (павінны ўмець)**

Весці сябе на вуліцах і дарогах, чытаць і дзейнічаць у апаведнасці з патрабаваннямі дарожнай разметкі дарожных знакаў, сігналаў святлафора і транспарту.

Весці сябе пры пажарах (і ў час навальніцы) у лесе, у будынку, ва ўмовах павышанага радыяцыйнага фону, па сігналах і інфармацыі штаба ГА, у сховішчах і ўкрыццях; карыстацца сродкамі індывідуальнай аховы; карыстацца электра- і газавымі прыборамі; парадак вывазу аварыйных службаў (пажарнай, хуткай дапамогі, міліцыі, штаба ГА).

### 10—11 класы, прафесіянальна-тэхнічныя і сярэднія спецыяльныя навучальныя ўстановы

Юнакі з патрабаваннямі Законаў Рэспублікі Беларусь "Аб абароне", "Аб усеагульным воінскім абавязку і праходжанні службы"; з традыцыямі народа Рэспублікі Беларусь па абароне Бацькаўшчыны, Узброеных Сіл, з гісторыяй узаемаадносін паміж ваеннаслужачымі, воінскіх званняў, узнікнення і развіцця зброі і ваеннай тэхнікі;

з узбраеннем і баявой тэхнікай вайсковай часці, размяшчэннем, жыццём, бытам, нормамі забеспячэння асабовага саставу УС Рэспублікі Беларусь;

з Палажэннем аб Баявым Сцягу вайсковай часці, з патрабаваннямі нарматываў па фізічнай падрыхтоўцы маладога салдата. Дзяўчаты. З правіламі догляду за хворымі, збору выдзяленняў, калу і забору крыві для аналізаў, правядзеннем прафілактычных лячэбных працэдур.

Магчымыя крыніцы, фізічныя ўласцівасці і прыкметы з'яўлення ядавітых, атрутных рэчываў, радыяцыйнага апраменьвання, іх уздзеяння на арганізм чалавека і жывёл;

паводзіны чалавека ва ўмовах радыяцыйнага, хімічнага і біялагічнага забруджання і заражэння.

Спосабы аховы.

Паражаючыя фактары ядзерных выбухаў, іх уздзеянне на чалавека, прадукты харчавання, прыборы і механізмы.

Паняцце аб знешнім і ўнутраным апраменьванні. Значэнне доз апраменьвання. Магчымыя выпадкі ўзнікнення прамянёвай хваробы.

Спосабы аховы і прыёмы аказання першай дапамогі пацярпеўшым і пашкоджаным пры аварыях, катастрофах і стыхійных бедствах. Акрамя гэтага: юнакі.

Канстытуцыйныя правы і абавязкі грамадзяніна па абароне Рэспублікі Беларусь;

назначэнне УС і іншых узброеных фарміраванняў Рэспублікі Беларусь, іх састаў.

Абавязкі прызыўніка і парадак праходжання службы салдатамі.

Парадак узаемаадносін паміж ваеннаслужачымі. Патрабаванні да ваеннаслужачых па службе.

Патрабаванні ваеннай прысягі. Назначэнне і агульная будова ўзораў узбраення мотастралковага аддзялення.

Агульная будова і парадак работы з прыборамі хімічнай і радыяцыйнай разведкі і кантролю. Меры бяспекі пры абыходжанні з ядавітымі і выбуховымі рэчывамі, са зброяй і выбухованебяспечнымі прадметамі.

Дзяўчаты. Змест першай медыцынскай дапамогі ў ачагах паражэння, пры траўмах, апёках, абмаражэннях, непрытомнасці; для ўзнаўлення дыхання і работы сэрца.

Дзейнічаць пры пажаратушэнні; аказваць першую дапамогу пры паражэнні электратокам, абмаражэннях і атручаннях, павялічваць ахоўныя ўласцівасці вопраткі; кватэры, класа, рыхтаваць ватна-марлевыя павязкі, ахоўныя маскі, выкарыстоўваць індывідуальныя сродкі аховы для выратавання пашкоджаных і пацярпеўшых; падбіраць процівагаз, карыстацца індывідуальнай аптэчкай, УПП; дзейнічаць у экстрэмальных умовах. Акрамя таго: Юнакі. Выкарыстоўваць падручныя сродкі тушэння, карыстацца вогнетушыцелямі ў розных сітуацыях, пры ўзгаранні электраправодкі і прыбораў; дзейнічаць пры пападанні гарэўшай вадкасці на вопртку і цела; выконваць абавязкі старшага пры арганізацыі аховы ў экстрэмальных умовах: пры пажарах, аварыях, стыхійных бедствах і катастрофах, пры правядзенні эвакуацыі; арыентавацца на мясцовасці па компасу, нябесных свяцілах, мясцовых прадметах;

выжыць у экстрэмальных умовах (у лесе, на балоце) у адзіночку і ў групе (псіхалагічная сумяшчальнасць), пабудаваць часовае жыллё (укрыццё), здабываць агонь, раззесці і захаваць касцёр, здабываць і скарыстоўваць у ежу расліны, ягады, грыбы, парасткі і г.д.;

Пераадольваць складаныя для праходу месцы, водныя перашкоды; удзельнічаць у правядзенні выратавальных работ пры аварыях, катастрофах і стыхійных бедствах;

працаваць з прыборамі хімічнай і радыяцыйнай разведкі і кантролю; праводзіць частковую санітарную апрацоўку, дэгазацыю, дэзактывацыю, дэзінфекцыю, дэзінсекцыю; абыходзіцца са зброяй і боепрыпасамі, весці сябе ў ціры і на агнявым рубяжы;

весці прыцэльную стральбу па мішэнях з пнеўматычнай і малакалібернай вінтовак;

абараніць сябе і сябра ад нападу ў розных умовах: на вуліцы, у транспарце, у пад'ездзе і г.д.; выконваць нарматывы.

Дзяўчаты. Выконваць мерапрыемствы па прафілактыцы інфекцыйных захворванняў; выкарыстоўваць і прымяняць прасцейшыя сродкі і лекавыя рэчывы пры аказанні першай дапамогі; выконваць абавязкі медыцынскай сястры Таварыства Чырвонага Крыжа.

ДАДАТАК 2

## УМОВЫ ВЫКАНАННЯ СТРАЛЬБЫ З ПНЕЎМАТЫЧНАЙ І МАЛАКАЛІБЕРНАЙ ВІНТОВАК, АЎТАМАТА І Ў КІДАННІ РУЧНЫХ ГРАНАТ

### Практыкаванні па стральбе з пнеўматычнай вінтоўкі

**1-е практыкаванне**

Цэль — белы аркуш паперы памерам 12х12. Адлегласць да цэлі 5 м. Колькасць пулек — 8/3 пробных, 5 зілаковых). Час на стральбу неабмежаваны. Становішча для стральбы — седзячы з апорай локцямі аб стол і ўпор. Адзнака вызначаецца па пападаннях у ліст пяццю пулькамі ў габарыце: "выдатна" — 5 см, "добра" — 6 см, "здавальняюча" — 7 см.

**2-е практыкаванне**

Цэль — мішэнь 6а. Адлегласць да цэлі — 10 м. Колькасць пулек — 3. Час на стральбу неабмежаваны. Становішча для стральбы — лежачы з упору. Адзнака (паразіць цэль): "выдатна" — трыма пулькамі, "добра" — дзюма, "здавальняюча" — адной пулькай.

**3-е практыкаванне**

Цэль — мішэнь 6а. Адлегласць да цэлі — 10 м. Колькасць пулек — 3. Час на стральбу неабмежаваны. Становішча для стральбы — лежачы з упору. Адзнака (выбіць ачкоў): "выдатна" — 20, "добра" — 16, "здавальняюча" — 12 ачкоў.

### Практыкаванні па стральбе з малакалібернай вінтоўкі.

**1-практыкаванне**

Мэта — грудная фігура з кругамі (мішэнь 4), зменшаная ў 4 разы, на шчыце 50х50 см. Адлегласць да цэлі — 25 м. Колькасць патронаў — 3 шт. Час на стральбу неабмежаваны. Становішча для стральбы — лежачы з упору.

Адзнака: "выдатна" — выбіць 25 ачкоў з пападаннем у фігуру, "добра" — 20, "здавальняюча" — 15.

**2-е практыкаванне**

Цэль — бягучая фігура, мішэнь 8, зменшаная ў 4/8/ разоў, нерухомая. Адлегласць да цэлі 50/25м. Колькасць патронаў — 3 шт. Час на стральбу неабмежаваны. Становішча для стральбы — лежачы з упору.

Адзнака: "выдатна" — паразіць мішэнь трыма выстраламі, "добра" — двума, "здавальняюча" — адным.

### Практыкаванні па стральбе з аўтамата Калашнікава

Цэль — грудная фігура з кругамі (мішэнь 4) па шчыце 0,75х0,75 м, нерухомая; шчыт устанаўліваецца на ўзроўні паверхні зямлі (без прасвету). Адлегласць да цэлі — 100 м. Колькасць баявых патронаў — 3 шт. Час на стральбу неабмежаваны. Становішча для стральбы — лежачы з упору.

Адзнака: паразіць цэль і пры гэтым выбіць на "выдатна" — 25 ачкоў, на "добра" — 20, на "здавальняюча" — 15 ачкоў.

### Практыкаванні ў кіданні ручных гранат

Кіданне ручной асколачнай гранаты з месца. Цэль — тры атакуючыя стралкі — роставыя фігуры (мішэнь 8) устаноўлены ў абазначаным габарыце на адкрытай мясцовасці (пляцоўцы) па фронту 10 м і ў глыбіню 5 м.

Габарыт разбіваецца па глыбіні на 3 часткі; цэнтральную (глыбінёй 1 м), бліжнюю і дальнюю (глыбінёй да 2м). Мішэні ўстанаўліваюцца так: дзве — па бакавых краях цэнтральнай часткі і адна — у сярэдзіне дальняй часткі.

Далёкасць да цэлі — 25 м. Колькасць гранат — 1 балванка.

Становішча для кідання: стоячы з акопа са ступенькі.

Адзнака: "выдатна" — за пападанне ў цэнтральную частку габарыта; "добра" — за пападанне ў дальнюю частку габарыта, "здавальняюча" — за пападанне ў бліжнюю частку габарыта.

СВЕТАПОГЛЯД

# СУРАГАТЫ СВАБОДЫ,

## або ВОЛЬНАЕ ЭСЭ АБ ШЛЯХАХ ДУХОЎНАЙ НЯВОЛІ

Мы з вамі выдатна апазіцыйныя, ці не праўда? Не абавязкова ў палітычным, а ў жыццёвым, псіхалагічным сэнсе. Унутрана, ад нараджэння. У гэтым ледзь ці не адзінае наша задавальненне годнасці. Гэты — апазіцыйны да жыцця. Гэты — да калектыву. Хтосьці — да жонкі. Парачка ў падваротні — да ханжаў-прахожых. Узбуджаны грамадзянін у піўбары — да чагосьці больш агульнага, "да іх". Гэта ўжо амаль палітычная апазіцыя (у першым набліжэнні піўбар сыйдзе за парламент). Ну і, вядома ж, мы ўсе апазіцыйныя да тых, хто наверсе. А яны, яны — да саміх сябе. Не апазіцыйны — хто ж?..

Сябры, цудоўны наш саюз — ва ўсеагульнай, роўнай і ледзь ці не абавязковай апазіцыйнасці. Увесь наш народ, як адзін чалавек складае вялікую партыю апазіцыі. Да каго, нарэшце — да самога сябе?..

У такой шырокай, разгалінаванай з'явы павінны быць карані. І яны ёсць, яны ў нашым генатыпе. Прыгадаем нашу заўсёдную пагарду "да начальства". Прашчуры нашы выбіралі сабе старасту, каб назаўтра падкепліваць з яго бязглуздасці. Ламалі шапку перад панам, з-пад крыса пакручваючы фігай. Веселуны. Сапраўды свабодалюбівы народ. Апрача жартаў, была, была ў нашай прыродзе яна, заяўка на свабоду думкі і духу. Але планка ўзнята ("пакуль"?) не была. Духу не хапіла.

Такім чынам, апазіцыйнасць — як фікцыя Свабоды. Як ні сумна, у катэгорый, як ва ўсяго тленным свеце, ёсць тры галоўныя перыяды: нараджэння, росквіту і смерці. І калі мы не рызыкнём сказаць, што Бог памёр, то зафіксаваць устойлівае ўражанне аб смерці Бога катэгорыі Свабоды, яе духу, яе анёла-хавальніка — маем поўнае права.

Знасілася слоўца. Выдахлася, як цудоўнае, дарагое віно. Па нашай беднасці знаходзім мы ўзамен нейкую запчастку, якая больш-менш, на вока, быццам падыходзіць. Не цярпець жа прыродзе пустату. У свой сацыяльна-псіхічны механізм сунем замест Свабоды — яе, апазіцыйнасць. Рыпіць, шуміць машына — імітуе работу. Што ж, уражанне таксама — чагосьці ды варта...

Памёршы, катэгорыя Свабоды пачала разлагацца на нашых вачах. Першы прадукт разлажэння — праслаўтая ідэйная няпэўнасць, якая родзіч мазгавой размякчанасці. Паглядзіце на парламент, гэтую кроплю, у якой адлюстроўваецца ўвесь народ. Мы пераконваемся, што любая большменш звязная дыскусія не можа адбывацца без тэрміналагічнага цара ў галаве, пераконваемся, што грамадска-культурныя традыцыі — не пусты гук.

Правільна, калі няма культуры, нічога няма. Слухайце, а дзе нашы майстры гэтай самай культуры? Не, яны нікуды не зніялі, куды яны падзенуцца. Але дзіўнае ўражанне ад іх з'яў народу: яны выступаюць у ролі нейкага дэкаратыўнага фону, атрыбута афармлення. Так і бачыцца сцэнарый: "Заслона адчыняецца. На сцэне — возера, воблака, вежа, дзеяч культуры. З'яўляюцца героі дзеі..." Дзеячы культуры — як элемент мізансцэны... Праўда, на іх таксама часам находзіць верш, і яны дазваляюць сабе ўголас некалькі думак. Аб засіллі парнухі. Або адносна моўнай праблемы. Сінтэзаваць нават гэтыя два немудрагелістыя падыходы — ужо цяжка. У кожнага боку — сваё апазіцыйнае галашэнне, а адвольна абыходзіцца з галашэннямі не прынята.

Не кажучы ўжо аб выдачы на-гара канцэптуальных прапаноў па авалоданні культурнай сітуацыяй. Здаецца, каму і карты ў рукі, як не высокашаноўнаму Міністэрству культуры і да т.п. Але зноў жа, складваецца ўражанне, што многія работнікі культуры пайшлі ў глыбокае падполле. Вядома, дзікі рынак можа быць. Але дзікая культура?..

Высвятляецца, што і сама ж наша часотка апазіцыйнасці, якой мы сябе цешым, у сваю чаргу — халтурная містыфікацыя. Захоўваецца толькі тон, пафас, інтанацыйны прыём. Па голасу толькі і відаць, па зяючых вачах — чалавек супраць. Ён — кляйміць. Гэты адмоўны энтузіязм ("Ды не згодны я!") становіцца проста сумным. Так, усё — падзяліць. Спрэчка толькі ў тым, пароўну ці не пароўну. У нас гэта называецца філасофіяй дзяржаўнага будаўніцтва.

Зрэшты, даме мудрай і таму крыху зануднай па празванню дыялектыка заўсёды трэба ўдзяляць увагу. Апазіцыйнасць, як параджэнне свабодалюбства, мае безумоўна дабратворны бок. Інтэлігенцыя апазіцыйная — па вызначэнні. Адна справа, калі апазіцыйнасць ідзе па павярхоўным, разбуральным шляху, іншая — калі гэты шлях высокаадказны — у духу тых жа "Вехаў". (Гэты збор артыкулаў спатрэбіўся б кожнаму палітыку ў якасці настольнай кнігі). "Учарашні рэвалюцыянер, які гаварыў на сходзе агітацыйную прамову, сёння ідзе на экзамен і, каб "праскочыць" без ведаў, звяртаецца да вартых жалю, падманных прыёмаў; адказваючы на экзамене, бялее і ледзь не дрыжыць; "праскочыўшы", ён зноў саманадзейны і "горды". Уставаць у "трэцюю пазіцыю", вядома, лягчэй, чым проста рабіць. Плюс да ўсяго апазіцыйнасць, ні для каго не сакрэт, часта выкарыстоўваецца проста як кар'ерысцкі ход. І гэта асабліва сумна. Што ж датычыцца ўласна апазіцыі ў Вярхоўным Савеце, то гэтая назва ў многім выпадковая. У многім гэта толькі факт барацьбы за ўладу — за выключэннем выпадкаў сапраўды духоўных і прынцыповых.

Апазіцыя, як палітычная структура, выконвае вельмі неабходную ролю разгойдвання таго наменклатурнага балота, у якім Беларусь патанула. Роля апазіцыі, як рухавіка прагрэсу, была б яшчэ больш пераканаўчай, калі б не была яна празмерна публіцыстычнай. Але такія нашы зыходныя ўмовы. Наогул, радзіма наша спакутавалася па сумленных людзях на чале яе. Уяўляецца, лідэр апазіцыі — шчыры ў сваім патрыятызме, а гэта дарагога каштуе.

Але як надаць духоўнасці, працаздольнасці нашай генетычнай апазіцыйнасці? Пытанне пытанняў. І не абысціся тут без слоў аб паглыбленасці ва ўзыходжанні, без слоў пра самаўдасканаленне. Па вялікаму ж рахунку апазіцыйнасць мае сэнс толькі ў адносінах да сябе, да нашай павярхоўнасці...

Не хадзіце шырокімі варотамі, не хадзіце... Але якія цяжкія, блытаныя шляхі да спасціжэння гэтых абкатаных у вяках ісцін. Недапушчальна ж духоўнае будаўніцтва Адраджэння зводзіць толькі да прыватных пытанняў. Інакш — прафанацыя, інакш — тупік.

Гульня ў апазіцыйнасць асабліва выразна адлюстроўваецца ў нашай прэсе. Ну хочацца быць у згодзе з часам, ну што ж тут зробіш. Апанаваныя магчымасцю набраць лёгкія "ачкі", мы і не заўважаем, што даўно прытанцоўваем і на дарагіх магілах, і на сваім гонары, і на самім сэнсе існавання. Як бы — і не да гэтага. Не той у нас зараз "настрой". Так хворым старэчай бледнай хваробай толькі і застаецца гаварыць аб адсутнасці яго, "настрою". Выліваецца гэта ўсё, у лепшых сваіх варыянтах, у ёрніцтва публіцыстычнага тону. І ўсё б нічога, разняволенасць — справа вясёлая. Аднак ёрніцтва адносна жабрацтва народа, функцыянальнага бяссілля яго ўладароў, адносна выраджэння, вымірання!.. Ці то нас густ падводзіць, ці то павярхоўнасць у культуры, а, можа быць, проста бездухоўнасць у самым прамым значэнні гэтага слова. Дарэчы тут і хрэстаматыйная водпаведзь талстоўскага Балконскага лакейству ўсялякага выскалляння над бедамі радзімы.

Памятаеце: толькі той дастойны шчасця і свабоды, хто кожны дзень ідзе за іх у бой. Для нас з гэтага высакароднага сэнсу засталася адна фраза. Смак да Свабоды згублены. Паняцце — згублена. Мы ўжо саромеемся гаварыць аб ёй як аб духоўна-асобаснай катэгорыі. А ці можа быць свабоднай краіна з несвабодных, неразняволеных людзей?

Свабода асобы, свабода меркаванняў... Меркаванні і погляды расстаўлены намі па двух-трох немудрагелістых, вульгарнажорсткіх пазіцыях. Адбылася смешная і бедная класіфікацыя поглядаў. "Дэмакрат" і "кансерватар" — вось тое пракрустава ложа, у якое мы амаль што ўмясцілі ўсю разнастайнасць светаўспрымання. Паспрабуйце быць беларусам-патрыётам і, скажам, адмаўляць крайнія нацыянальныя перахлёсты, якія, бывае, выходзяць па-за рамкі павагі да таго ж народа. Вас не будуць разумець. Ці — вы за ідэю сацыяльнай справядлівасці і ў той жа час адмаўляеце камуністаў з іх закарэлай гістарычнай настальгіяй. Нават пры такой мінімальнай "некласіфікаванасці" поглядаў вы будзеце раздражняць людзей. Бо будзеце непакоіць тое месца ў душы людзей, дзе патанула Свабода, яе найнадзённая неабходнасць.

Калі ў чалавека, які размаўляе з табою, бегаюць вочы толькі таму, што ён з усёй сілай спрабуе ўгадаць у якасці сваёй "пазіцыі" адну з палітычна-грамадскіх плыняў, адну з танных спекулятыўных праграм — сумна і балюча. За —чалавека. Які ўсё ж нараджаецца, прызваны быць — Свабодным. У самым шырокім і ўрачыстым значэнні гэтага слова. Высокая катэгорыя Свабоды, зашмальцаваная не па прызначэнню да дзірак, нагадвае Белае Адзенне, што выкарыстоўваецца ў якасці анучы для падлогі. Прыглядзьцеся — сутнасць свабоды знікла амаль з усіх праграм і дэкларацый. Прысутнічае чыста намінальна, як дар традыцыі, прамаўляецца ледзь ці не скрозь зубы. Выкарыстоўваюцца толькі часткі раскрышанага паняцця: "свабоднае прадпрымальніцтва", "свабода перасоўвання", "свабода друку"... Выкарыстанне "свабоды" тут — у якасці мыш'яку на хворым зубе. І неяк жа жывём з гэтай мярцвячынай, носімся з ёю адзін перад адным. Сорамна, панове.

"І царуе ў душы нейкі холад патаемны" — дрыжыкі гістарычнай апазіцыйнасці. Гэты сурагат свабодалюбства, увасоблены ў самых вульгарных формах, нарабіў ужо бед нямала. Гэта рычаг усіх рэвалюцый, якімі мы сябе згвалцілі, насмяяліся над усім святым, выхаласціўшы нацыянальную душу і цела.

Вывеўшы за рамкі размовы эканоміку, якая навязнула ў зубах, можна было б сказаць: палітыка — гэта канцэнтраваная этыка. Але што такое этыка, з чым яе ядуць у нашым грамадстве — наўрад ці хто-небудзь сабе ўяўляе. Тым больш палітыкі. Між тым нераспрацаванасць этыкі ў космасе грамадства, нерабочы стан яе механізмаў пакідае ўсе галіны жыцця краіны ў становішчы клінічнай смерці, што пераходзіць у незваротнае разлажэнне самога дзяржаўнага цела.

І калі дух катэгорыі Свабоды загадаў доўга жыць, ці не ўсё роўна, у якія словы-бірулькі нам гуляць. Давайце ж — гуляць. Далучайцеся, панове, далучайцеся.

**Іван СОТНІКАЎ.**

СКАЖУ ДОБРАЕ СЛОВА

# АПТЫМІСТКА З УСМЕШКАЙ НА ТВАРЫ

Хлопчыкам і дзяўчынкам з Корчыцкай базавай школы Кобрынскага раёна Брэсцкай вобласці, безумоўна, пашанцавала са старшай важатай. Вось ужо шосты год тут працуе Жанна Фёдараўна Суботка. Яна свядома выбрала сабе гэтую прафесію. Жанна — захоплены сваёй справай, энергічны, сумленны, добры, абаяльны чалавек, які вельмі любіць дзяцей і жыве іх праблемамі, думкамі, перажываннямі. Усіх здзіўляюць яе адносіны з дзецьмі: шчырыя, сяброўскія.

Жанна — натура незалежная, не церпіць насілля над сваёй асобай. Ніколі не дазваляе яна гэтага і ў адносінах да дзяцей.

Кожны год Жанна Фёдараўна ўводзіць што-небудзь новае ў работу сваёй дружыны. У гэтай школе дзейнічаюць піянерская дружына "Несумуйка", атрады па інтарэсах: "Муравушка", "Брыганціна", "Сакрэтны фарватар", "Кра-кра".

"Кра-кра" — атрад важатых малодшых школьнікаў. Дзецям вельмі цікава з імі. Яны арганізуюць з малодшымі школьнікамі цікавыя справы, развучваюць новыя гульні і дзіцячыя песні.

Атрад "Муравушка" займаецца экалогіяй. Непадалёку ад школы пракладзена экалагічная сцежка. Дзеці сабралі багаты матэрыял аб раслінах, якія растуць на сцежцы. Экскурсаводы на ёй — самі дзеці. Часта практыкуюцца аперацыі па ачыстцы лясоў, прудоў. Дзеці вырошчваюць пакаёвыя кветкі, вывучаюць экалагічную абстаноўку ў сваёй мясцовасці, абараняюць мурашнікі, рэдкія расліны. Асабліва шмат часу адводзіцца на састаўленне кампазіцый з сухацветаў. Уся школа ўпрыгожана гэтымі цудоўнымі і незвычайнымі работамі.

Атрад "Сакрэтны фарватар" займаецца цімураўскай работай. Дзеці дапамагаюць ветэранам, старым, хворым, інвалідам. Яны працягваюць, адраджаюць цімураўскія традыцыі. Так, у атрада ёсць свая сакрэтная база, дзе размяшчаецца штаб, ёсць свой Цімур. Не так проста стаць членам гэтага атрада. Трэба заваяваць давер дзяцей, быць добрым, працавітым, умець захоўваць сакрэт. Юныя цімураўцы свае працоўныя аперацыі праводзяць ранкам або вечарам, каб ніхто не бачыў, пакідаючы пры гэтым візітную картку з зорачкай і са словамі "Прывітанне ад цімураўцаў".

Дзеці з атрада "Брыганціна" з'яўляюцца арганізатарамі масавых мерапрыемстваў у дружыне. Яны рыхтуюць вечары, гульневыя праграмы, конкурсы. Напрыклад, на базе Корчыцкай школы было праведзена свята "Багач". Завадатарам яго былі хлопчыкі і дзяўчынкі з атрада "Брыганціна", а Бульбёнай была старшая важатая. На свята ў госці прыехалі школьнікі з Хідрынскай сярэдняй школы.

Узначальвае ўсю работу дружыны і атрадаў рада камандзіраў на чале з Марынай Шынкарук. Весела, цікава жывуць у гэтай школе. На працягу верасня актыў дружыны распрацаваў сваю праграму. Шмат цікавых спраў прайшло ў дружыне ў гэтым навучальным годзе. Незвычайна адзначаўся дзень нараджэння піянераў Беларусі: у лесе быў піянерскі касцёр, дзе адбыліся конкурсы песні і грыбнікоў, віктарына па Статуце БРПА, гульневая праграма. Пасля юныя артысты выехаць з канцэртнай праграмай у в.Руховічы. Цікава прайшоў у школе Дзень настаўніка.

А ініцыятарам усяго гэтага, першым памочнікам і дарадчыкам з'яўляецца старшая важатая Жанна Фёдараўна Суботка. Жанна лічыць, што неталенавітых дзяцей няма. У кожнага ёсць свае адметныя здольнасці. Трэба толькі ўбачыць дзіця, дапамагчы развіцца. Вельмі проста і лёгка дарослым падпарадкаваць дзяцей, падагнаць пад свае правілы. Намнога цяжэй зразумець іх, быць ім і настаўнікам, і сябрам. Яшчэ цяжэй стаць побач з дзіцем, паглядзець на свет яго вачыма, не павучаць пастаянна, а даць штуршок развіццю самастойнасці, дапытлівасці, ініцыятыве, інтэлекту. Многія бацькі і настаўнікі па-добраму зайздросцяць Жанне Фёдараўне, а многія і шкадуюць, што іх уласныя дзеці ўжо выраслі і на іх шляху не сустрэўся такі чалавек.

Нягледзячы на жыццёвыя складанасці, Жанна — аптымістка, яна заўсёды з ветлівай усмешкай на твары, і ад гэтай усмешкі святлеюць тварыкі яе выхаванцаў.

Што вабіць дзяцей у важатай, акрамя яе арганізатарскіх здольнасцяў? Тое, што яна шмат ведае, шмат умее і шмат робіць. Жанна Фёдараўна ў школе не толькі старшая важатая. Яна выкладае гісторыю Беларусі, з'яўляецца класным кіраўніком, вядзе фальклорны і танцавальны гурткі, прычым сама добра спявае і танцуе, што, вядома ж, вельмі імпануе дзецям. Пад яе кіраўніцтвам дзеці з задавальненнем збіраюць і развучваюць мясцовыя песні, танцы, любяць і сучасныя. А развучыўшы новыя творы, стараюцца паказаць іх сваім аднагодкам, аднавяскоўцам. Жанна Фёдараўна і яе выхаванцы не сядзяць на месцы, не замыкаюцца ў сценах сваёй школы. Цесныя сувязі ўсталяваліся ў корчыцкіх школьнікаў з многімі школамі раёна. Дзеці выязджалі са сваёй канцэртнай праграмай у Пескі, Хідры, Хабовічы, Руховічы, Кісялёўцы.

З хідрынскімі школьнікамі правялі сумеснае пасяджэнне клуба вясёлых і знаходлівых, са школьнікамі з Верхалесся — гульню "Два караблі", з дзецьмі з Хабовіцкай школы — "КВЗ" і "Зарніцу", "Знайдзі мяне". Корчыцкія хлопчыкі і дзяўчынкі сябруюць з аднагодкамі з Масквы, з г. Іванава Брэсцкай вобласці. У час канікулаў яны ездзяць адзін да аднаго ў госці. Звычайна дзеці жывуць у сем'ях сваіх аднагодкаў.

Жанну Суботка любяць і паважаюць не толькі ў школе, яе добра ведаюць і ў раёне. Кожны год раённы Дом дзіцяча-юнацкай творчасці праводзіць конкурс на званне "Важаты года". І кожны год яна ў гэтым конкурсе альбо перамагае, альбо займае прызавыя месцы.

Жанна Фёдараўна ахвотна перадае свой вопыт работы з дзецьмі маладым важатым. Вось і нядаўна яна прымала ў сваёй школе важатых-навічкоў, а ў канцы кастрычніка мінулага года, калі ў Корчыцах праходзіла свята "Багач", на яго прыязджалі школьнікі з Хідрынскай сярэдняй школы.

Напэўна, не трэба і казаць, як аддана і шчыра любяць сваю старшую важатую яе дзеці, з якім захапленнем сустракаюць, як чакаюць яе позірку, пахвалы, усмешкі.

**В.ІГНАЦЮК,**
метадыст Кобрынскага раённага Дома дзіцяча-юнацкай творчасці.

